*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 51 (211) 21 снежня 1994 г. Кошт — 40 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У ІНТЭРВ'Ю ГАЗЕЦЕ «ЗВЯЗДА» ПЕРШЫ НАМЕСНІК МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ВАЛЕРЫЙ ЦЭПКАЛА НА АДНО З ПЫТАННЯЎ КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗАЎ:** «Недарэчна было б Беларусі ўстанаўліваць жорсткую граніцу з Украінай і Расіяй, каб перашкодзіць пранікненню да нас бежанцаў, зброі і наркотыкаў. Тым больш, што ўстанаўленне такой граніцы псіхалагічна зусім не будзе ўспрынята нашымі народамі. Намнога прасцей садзейнічаць стабілізацыі на таджыкска-афганскай граніцы». Так што нашы дзяржаўныя кіраўнікі не збіраюцца перашкаджаць пранікненню да нас бежанцаў, зброі і наркотыкаў, таму, відаць, няма чаго нам спадзявацца на спакойнае жыццё.

❍ ***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ НАВЕДАЎ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ ВЯЛІКАБРЫТАНІЮ,*** *дзе меў сустрэчу са старшынёй Камісіі палаты абшчын па адукацыі сэрам Малькольмам Торнтантам. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны праблемы адукацыі.*

❍ **У ЭКСПРЭС-АПЫТАННІ «ЗВЯЗДЫ» КСЕНІЯ БАРЫСАЎНА ЛАГОЖЫЦ, БЫЛАЯ РАБОТНІЦА МПА «ПРАМЕНЬ», ЯКАЯ ЗАРАЗ БЕСПРАЦОЎНАЯ, СКАЗАЛА:** «Нават толькі па адных падзеях у Чачні разумееш, як добра быць самастойнай і незалежнай ні ад каго дзяржавай. Вайна з любымі намерамі — гэта заўсёды жах, забойства і слёзы». Калі ўжо ў нас так пачнуць думаць пра незалежнасць усе, ад каго залежыць лёс нашай дзяржавы?

❍ ***У МЕНСКУ Ў СУВЯЗІ З ПАДЗЕЯМІ Ў ЧАЧНІ АДБЫЛОСЯ ПІКЕЦІРАВАННЕ*** *Пасольства Расіі ў падтрымку чачэнскага народа, які імкнецца да незалежнасці.*

❍ **У МАЛАДЗЕЧНЕ АДБЫЎСЯ ЎСТАНОЎЧЫ СХОД НОВАЙ ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ** — Аб'яднання маладых патрыётаў Беларусі. Галоўная мэта дзейнасці АМПБ — пашыраць нацыянальную ідэю сярод моладзі.

❍ ***У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАРЭГІСТРАВАНА АСАЦЫЯЦЫЯ «ДЗЕЛАВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА».*** *Галоўная задача новага грамадскага фарміравання — выпрацоўка навукова абгрунтаваных прапаноў і рэкамендацый для развіцця ўсіх галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Прэзідэнтам асацыяцыі з'яўляецца Генадзь Карпенка.*

❍ **З НАГОДЫ ВЫХАДУ КНІГІ «АД ПОЛАЦКА І НЯСВІЖА — ДА ПАДУІ І ВЕНЕЦЫІ» АДБЫЛАСЯ БЕЛАРУСКА-ІТАЛЬЯНСКАЯ ВЕЧАРЫНА.** У ёй прынялі ўдзел паслы Італіі Джанлука Берцінета і Польшчы Эльжбета Смулэк, міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько і міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч.

***ВІЦЕБСК: СУПРАЦЬ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ — ДУБІНКІ І АРЫШТЫ З РУСКІМ МАТАМ.***
*Стар. 2—3.*

***ЗА АПОШНІЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЁ ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ ЗМЯНІЛАСЯ. МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ ЎСЁ МЕНШ ІМКНЕЦЦА ПРЫХАВАЦЬ СВАЮ БЕЛАРУСКАСЦЬ.***
*Стар. 4.*

*Жыццё Таварыства*

## Не задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі!

### *Зварот да грамадзян Беларусі*

*Апошнім часам, небеспадстаўна разлічваючы на падтрымку найвышэйшых асобаў улады, у нашай краіне актывізавалі сваю дзейнасць антыбеларускія сілы, якія маюць на мэце спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Дзеля гэтага ў сродках масавай інфармацыі — у газетах, на радыё і тэлебачанні ставяцца пад сумненне праўдзівыя факты беларускай гісторыі, ідзе байкот выканання Закона аб мовах, адкрыта гучаць заклікі да замены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, да вяртання Беларусі ў абдымкі імперыі.*

*Запаволілася работа па аднаўленні гістарычных беларускіх найменняў вуліц, вёсак і гарадоў у нашай краіне, навучальныя ўстановы, калгасы і саўгасы па-ранейшаму носяць імёны партыйных дзеячаў і дзяржаўных кіраўнікоў былога Саюза, а таксама людзей, якія засведчылі сябе ў гісторыі як ворагі незалежнай беларускай дзяржавы. Рускамоўныя шыльды па-ранейшаму застаюцца на сценах большасці адміністрацыйных будынкаў, новастворапых устаноў і камерцыйных структур, у значнай ступені рускамоўным застаўся гарадскі і міжгародні транспарт. Шэраг газет і часопісаў на нашай мове, сістэма беларускага кнігавыдання пакідаюцца сёння на волю стыхіі дзікага рынку. Тармозіцца падрыхтоўка да перавода вышэйшых навучальных устаноў на беларускамоўнае навучанне, і беларус па-ранейшаму не мае магчымасці атрымаць адукацыю ў ВНУ на роднай мове. Ідзе адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Прылюдна, у стылі мінулых часоў, нацыянальна свядомыя грамадзяне Беларусі абвінавачваюцца ў нацыяналізме, распальванні нацыянальнай варожасці, разбурэнні стабільнасці і спакою ў грамадстве — толькі за тое, што беларус пачаў гаварыць на мове сваёй дзяржавы, на мове сваёй зямлі, мове сваіх продкаў. І ўсё гэта адбываецца ў краіне, дзе прадстаўнікам іншых нацыянальнасцей, таксама як і іншым мовам, ніхто і нішто не пагражае. Беларуская зямля, на жаль, становіцца прытулкам усяму антыбеларускаму, карумпаванаму, крымінагеннаму. Гэта не можа не трывожыць усіх сумленных грамадзян Беларусі, бо пад пагрозай незалежнасць нашай дзяржавы.*

*Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх свядомых грамадзян Беларусі, патрыётаў Бацькаўшчыны, стварыць супрацьстаянне гэтай змрочнай антыбеларускай імперскай плыні, на падставе Канстытуцыі і законаў не даць магчымасці задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі.*

*Набліжаюцца выбары ў Вярхоўную Раду краіны. Гэта выключна адказныя выбары. У нас ёсць магчымасць выбраць у вышэйшы орган сваёй улады людзей, адданых Беларусі, людзей, заклапочаных яе лёсам, самаахвярных і сумленных. Толькі ўсведамляючы свой нацыянальны абавязак і вялікую адказнасць перад дзецьмі і ўнукамі, перад будучыняй Радзімы, мы можам разлічваць на годнае месца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.*

*Жыве Беларусь!*

**Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны.**

*18 лістапада 1994 г.*

*У газетах*

### Прыклад сталіцы

Менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» (№ 226) апублікавала кароткую інфармацыю з чарговай, пятнаццатай сесіі гарсавета сталіцы. Цікава, што ў блоку пытанняў, звязаных з адказнасцю за адміністрацыйныя парушэнні, зацверджаны санкцыі супраць парушальнікаў дзеючага моўнага заканадаўства. У прыватнасці, на кіраўнікоў устаноў і арганізацый (незалежна ад формы ўласнасці) за невыкананне Закона аб мовах будзе накладацца штраф у памерах ад двух да дваццаці мінімальных заробкаў. Такім чынам дэпутаты сталічнага гарсавета падалі добры прыклад нашым уладным структурам усіх узроўняў для рэальнага выканання моўнага заканадаўства, паводле якога адзінай дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская.

### Другі выпуск «Айчыны»

Нядаўна ўбачыла свет «Айчына» — ужо другі выпуск чатырохпалоснага асветніцкага дадатку «Настаўніцкай газеты» (№ 95—96). Дадатак адкрываецца вялікім артыкулам дацэнта Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта А.Міцкевіча «Язэп Лёсік», надрукаванага пад рубрыкай «Постаці Беларусі». На першай старонцы таксама — артыкул Лявона Гмырака (Мечыслава Бабровіча) «Свайго не чурайцеся, чужому навучайцеся» 1913 года, асноўныя думкі якога надзвычай актуальныя і сёння. Настаўнік адной з мазырскіх школ Я.Фарбераў падрабязна расказвае аб гісторыі мазырскай мужчынскай гімназіі, якая распачынае свой радавод з далёкага 1859 года. Новую кнігу вядомага гісторыка Л.Лыча «Назвы зямлі беларускай» рэцэнзуе журналіст А.Карлюкевіч. А супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Т.Мацвеева ў сваім артыкуле «І нам зайздросцяць» пераканаўча даводзіць, што нашы прыродныя рэсурсы зусім не такія бедныя, як гэта традыцыйна чамусьці прынята лічыць. Безумоўна, чытачы з ахвотай прачытаюць і краязнаўчыя нататкі «Склеп Алены і Сымона» настаўніцы гісторыі сярэдняй школы з вёскі Вялікія Карані на Капыльшчыне В.Каляды.

Адзначым: «Айчына» — вельмі карысны і патрэбны дадатак «Настаўніцкай газеты» для ўсіх, хто цікавіцца роднай мінуўшчынай.

### Упэўнены поступ гарадзенскай «Пагоні»

«Наша слова» ўжо неаднойчы звяртала ўвагу на матэрыялы, апублікаваныя газетай «Пагоня», адзначала іх агульны пазітыўны накірунак. Чарговы, трыццаць сёмы нумар згаданай газеты ў гэтым сэнсе не стаў выключэннем. Да слова, статус «Пагоні» апошнім часам значна павысіўся. Замест ранейшага сціплага вызначэння «рэгіянальны агляд» з'явілася новая дэфініцыя «Заходнебеларуская грамадска-палітычная газета». Дададзім, што «Пагоня» цяпер — васьміпалосны штотыднёвік, заснавальнікам якога з'яўляецца культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына». Разавы наклад выдання — каля пяці тысяч паасобнікаў. Распаўсюджваецца газета не толькі ў Заходняй Беларусі, а і па ўсёй тэрыторыі нашай краіны, чытаецца ў суседніх дзяржавах.

Калі ўбачыце ў кіёску гарадзенскую «Пагоню» — купіце, не пашкадуеце!

**М.В.**

***ЛЮЛЯЎ ДВУХ МІЦКЕВІЧАЎ НЁМАН.***
*Стар. 6.*




### У Жлобіне зноў актывізавалася палітычнае жыццё

Напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў у Жлобіне зноў актывізавалася палітычнае жыццё. Тут прайшлі арганізацыйныя сходы мясцовых арганізацый Партыі БНФ і АДПБ. Старшынёй гарадской рады Партыі БНФ стаў работнік чыгункі Мікалай Пагодзін, а «аб'яднаных дэмакратаў» узначаліў дэпутат гарсавета Пётр Мірашнічэнка.

Акрамя гэтага, на Жлобіншчыне ўжо дзейнічаюць філія Беларускай Грамады, гарадская і раённая арганізацыі ПКБ, ЛДПБ, НДПБ, ПНЗ, «аграрнікі» і сялянская партыя.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**
г. Жлобін.

***КАЛЯНДАР СВЯТ І АБРАДАЎ БЕЛАРУСАЎ НА 1995 ГОД.***
*Стар. 8.*

Жыццё Таварыства

## ПАСТАНОВА
## *Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*

Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзейным заканадаўстве аб мовах, аб культуры, аб адукацыі Рэспублікі Беларусь і выказваючы занепакоенасць тым, што дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі не ажыццяўляецца належным чынам, а апошнім часам нават інспіруецца пэўнымі сіламі супрацьдзеянне яе ажыццяўленню, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны **пастанаўляе**:

1. Запатрабаваць ад усіх дзяржаўных структур і службовых асоб Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання палажэнняў Канстытуцыі краіны, у якіх замацаваны дзяржаўны статус беларускай мовы.

Асудзіць непатрыятычныя праявы нацыянальна-дзяржаўнага нігілізму і грэблівага стаўлення да мовы беларускага народа з боку асобных дзяржаўных служачых, пэўных грамадскіх аб'яднанняў альбо іншых структур.

2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з грамадскай ініцыятывай зацвердзіць у Законе аб бюджэце на 1995 год і ў падатковым заканадаўстве такія палажэнні, якія б гарантавалі паспяховае і поўнае ажыццяўленне Закона аб мовах, Закона аб культуры, Закона аб адукацыі і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць моўна-культурныя дачыненні ў грамадстве.

Лічыць недапушчальным згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальнай сістэмы адукацыі. У адпаведнасці з Законам і неад'емным правам народа беларускае слова ў сацыяльна-грамадскім ужытку Бацькаўшчыны павінна мець сапраўды дзяржаўнае гучанне.

3. Усведамляючы асабліва важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння Беларусі, аказваць больш дзейсную падтрымку органам, установам і работнікам азначанай галіны, якія самаахвярнымі высілкамі ствараюць падмурак нацыянальнай сістэмы адукацыі, забяспечваюць навучальна-выхаваўчы працэс згодна з патрабаваннямі заканадаўства. Без нацыянальнага дашкольнага выхавання, без сапраўды беларускай сярэдняй і вышэйшай школы не мае будучыні беларуская дзяржава.

4. Падтрымаць зварот бацькоў, вучняў беларускіх школ і класаў да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб пераводзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта на беларускую мову з 1 верасня 1995 года. Менавіта з гэтага года вялікая колькасць дзяцей з пачатковай беларускай школы пачынае пераходзіць у пятыя класы агульнаадукацыйных навучальных устаноў, і ўзнікае вострая праблема недахопу выкладчыкаў, якія прафесійна валодаюць беларускай мовай.

5. Ухваліць ініцыятыву шырокай грамадскасці Беларусі аб неадкладным стварэнні другога, цалкам беларускамоўнага, нацыянальнага канала Беларускага тэлебачання і звярнуцца да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай вырашыць гэта пытанне з улікам інтарэсаў незалежнай краіны, якая не можа развіваць сваю дзяржаўнасць і нацыянальную культуру без дастаткова развітай інфармацыйнай прасторы.

***18 лістапада 1994 г.***

## ПАСТАНОВА
## *Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*

Заклапочаная лёсам нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны і выказваючы напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады Рэспублікі сваю грамадзянскую пазіцыю, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны **пастанаўляе**:

1. Лічыць удзел суполак і сяброў ТБМ у выбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады краіны найважнейшай агітацыйна-асветніцкай кампаніяй, скіраванай на прапаганду ідэй нацыянальна-культурнага адраджэння, на пашырэнне ў грамадскім ужытку беларускай мовы і ўмацаванне дзяржаўнасці Беларусі.

2. Рэкамендаваць арганізацыям, сябрам ТБМ імя Ф.Скарыны прыняць на аснове дзейнага заканадаўства краіны актыўны ўдзел у вылучэнні кандыдатаў, прапагандзе перадвыбарчых праграм, у агітацыйна-масавай працы на ўсіх этапах правядзення выбараў. Прапанаваць усямерна падтрымліваць тых кандыдатаў, у праграме якіх яскрава выяўлена ідэя нацыянальна-культурнага адраджэння і станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы.

***18 лістапада 1994 г.***
***г.Менск***

## Не трэба спасылацца на эканамічныя і іншыя цяжкасці, а выконваць Закон аб мовах

Сябры заводскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны накіравалі кіраўніцтву Менскага аўтазавода зварот, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Мы, сябры суполкі Таварыства беларускай мовы Менскага аўтазавода, звяртаемся да кіраўніцтва прадпрыемства, яго падраздзяленняў у сувязі з тым, што на нашым прадпрыемстве, якое адно з першых у рэспубліцы пачало ўкараненне Закона аб мовах, справы пагоршыліся. Зусім прыпынілася работа па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя. Так, напрыклад, не зроблены шыльды назваў завода, пакояў і кабінетаў заводакіраўніцтва, а таксама не заменены шыльды ў асобных цэхах і аддзелах. Законам прадугледжана гэта выканаць у 1993 годзе, а загадам генеральнага дырэктара № 1132 ад 27.12.91 года — студзень-сакавік 1992 года. Безвынікова рабіўся напамін былому генеральнаму дырэктару аб тым, што яго ўласны загад не выконваецца начальнікам адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела.

Нягледзячы на ўказанне генеральнага дырэктара № 11 ад 30.01.92 года ў заводскай друкарні працягваюць прымаць заказы на друкаванне аб'яў, афіш, запрашэнняў, інструкцый і іншай прадукцыі не на дзяржаўнай мове.

Спынена работа па падрыхтоўцы пераводу справаводства на дзяржаўную мову. Не ва ўсіх падраздзяленнях перароблены друкарскія машынкі. Не праводзяцца заняткі беларускай мовы з тымі, каму гэта неабходна па пасадзе. Мы лічым, што ігнараванне падрыхтоўкі выканання гэтага артыкула закона створыць цяжкасці і непажаданыя хваляванні падначаленых пры надыходзе тэрміну і ўсеагульным пераходзе на беларускае справаводства.

Звяртаем увагу кіраўніцтва на артыкул 4 памянёнага Закона, якім патрабуецца службовым асобам, работнікам дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў абавязковае веданне беларускай мовы. Некаторыя прадстаўнікі адміністрацыі валодаюць беларускай мовай, размаўляюць на ёй. Але такіх прыкладаў вельмі мала.

Не выконваецца артыкул № 12, тэрмін увядзення якога сыходзіць у наступным годзе — правядзенне пасяджэнняў, канферэнцый, нарад, іншых сходаў на дзяржаўнай мове.

Мы ўпэўнены, што нашы кіраўнікі, не спасылаючыся на эканамічныя і іншыя цяжкасці, праявяць грамадскую свядомасць і актыўнасць у выкананні Закона аб мовах. У сваю чаргу мы абяцаем шчырую падтрымку і дапамогу».

Падрабязнасці

***Запрашэнне на Першы з'езд беларускіх нацыяналістаў і рэдакцыйная камандзіроўка на гэтае мерапрыемства ляжалі ў маёй кішэні, але туды, у Віцебск, я ехаў без вялікай ахвоты. Што я чакаў там убачыць? Аднаго-двух ветэранаў СБМ з настальгічнымі ўспамінамі і зычэннямі поспехаў маладым ды самых маладых, для большасці з якіх з'езд — добрая нагода павырабляцца ды памахаць на вуліцы сцягам, тым самым, што вісіць на кожным адміністрацыйным будынку. Дэлегаты, большасць з якіх будзе прадстаўляць саміх сябе, прымуць пару заяў, прасякнутых духам скрайняга нацыяналізму, ды, задаволеныя самі сабой, ціха разыдуцца па дамах, не звярнуўшы на сябе нічыёй увагі — думалася мне. Але не дарма кажуць — чалавек праракуе, а Бог выракуе. Усё адбылося інакш.***

## Віцебск: супраць дубінкі і арышты

...У ніжнім левым куце кадравага акна фотакамеры была бачна машына міліцэйскага патруля. У правым баку — сцяна карціннай галерэі віцебскага мастака Алеся Пушкіна з замацаванымі на ёй транспарантам і сцягам «Правага рэваншу» — адной з арганізацый-удзельніц Першага з'езда беларускіх нацыяналістаў. Якраз у цэнтры кадра апынуўся патрульны, які спрытна запіхваў у машыну нейкага хлопца. Затвор фотаапарата пстрыкнуў, і гэты ціхі гук парушыў кампазіцыю кадра. Міліцыянт падбег да мяне, да яго далучыўся яшчэ адзін, і праз некалькі секунд я апынуўся ў дзяжурнай машыне ў якасці арыштанта. Рэдакцыйнае пасведчанне карэспандэнта «Нашага слова» і згаданы мной Закон аб друку ахоўнікаў парадку не ўразілі. «Поедешь з нами», — пачуў я. Праз некалькі секунд дзверы адчыніліся і ў машыну ўкінулі яшчэ аднаго затрыманага — хлопца, якога я бачыў сярод удзельнікаў з'езда. «Варанок» рушыў і, праехаўшы метраў 30, апынуўся перад уваходам у раённы аддзел міліцыі. Я зірнуў на гадзіннік. Было 8.50.

У аддзеле нас чакалі. Праўда, тое, што адзін з «парушальнікаў парадку» аказаўся журналістам, прывяло службоўцаў у лёгкае расчараванне, затое двое ўдзельнікаў з'езда — студэнты Алесь Касач і Зміцер Лізункоў, затрыманыя нібыта за выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі (сведчу: ніякай — ні дазволенай, ні забароненай — сімволікай яны не карысталіся), выклікалі сапраўдны фурор.

— Недоёбки! — пачулі яны ад асобы ў форме капітана міліцыі. — Лучше бы на стройке работали или улицы подметали, чем митинговать!

Мне карцела спытаць, ці не азначае гэта, што, звяртаючыся да пана афіцэра, трэба ўжываць выкарыстанае ім акрэсленне без прыстаўкі «не». Але замест таго я націснуў клавіш «запіс» на дыктафоне. І зноў, як і ў выпадку з фотакамерай, гэта змяніла сітуацыю: запатрабаваўшы «убрать эту штуку», знаўца «фені» знік. Ягоныя супрацоўнікі аказаліся больш карэктнымі, хаця прымусіць іх запісаць у кнігу рэгістрацыі затрыманых таксама і мяне было нялёгка.

— Мы вам говорим о любви к ближнему своему, а вы...

Пачуўшы гэта, я азірнуўся і ўбачыў: кампанія арыштантаў папоўнілася яшчэ дзвюма асобамі — сябрамі нейкага царкоўнага брацтва, затрыманымі за расклейку нацыяналістычных улётак. Як высветлілася пазней, на сцены яны клеілі запрашэнні да ўдзелу ў сваіх набажэнствах. Гэтае назіранне было апошнім, зробленым мной у Кастрычніцкім РАУС Віцебска.

— Вы были задержаны для установления личности, — пачуў я ад маёра, намесніка камандзіра батальёна патрульна-паставой службы, — можете идти.

«Правыя рэваншысты», якія яўна не стваралі небяспекі грамадскаму парадку, засталіся ў пастарунку (яны прабылі там яшчэ дзве гадзіны і выйшлі адтуль ужо крымінальнікамі, супраць якіх была ўшчатая справа паводле другой часткі артыкула 167 адміністрацыйнага кодэкса — выкарыстанне недазволенай сімволікі), а я вярнуўся на з'езд, паспеўшы якраз да пачатку. З прамовай выступаў каардынатар арганізацыйнага камітэта з'езда, лідэр арганізацыі «Правы рэванш» Славамір Адамовіч.

— Наша сустрэча праходзіць з вялікай доляй імправізацыі. І гэта зразумела, бо на кожным кроку мы сустракаем перашкоды міліцыі, улад — і тут, і яшчэ ўчарашнім вечарам у Менску. І сёння, яшчэ да пачатку з'езда, міліцыяй былі затрыманыя адзін карэспандэнт і двое сяброў «Правага рэваншу», якія цяпер знаходзяцца ў пастарунку. Гэта — сведчанне палітычнага становішча ў краіне, і вы ведаеце, хто задае гэтаму тон, хто спрые напружанасці ў грамадстве. Гэта, а таксама ўціск на такія арганізацыі, як наша, паходзіць ад кіраўніка нашай дзяржавы.

Услед за ім загаварыў гаспадар дома і адзін з арганізатараў з'езда — мастак Алесь Пушкін:

— Хлопцы і дзяўчаты, нацыяналісты, спадарыні і спадары! Спярша я хачу крышачку азнаёміць вас з сітуацыяй, а ўжо потым сказаць прывітальнае слова да вашага кангрэса.

Вы прыехалі ў Віцебск. Гэтаму гораду тысяча гадоў. Гэта — беларускі горад. Яго гісторыя — гэта не гісторыя XIX і XX стагоддзяў. За намі — вякі. Гэты горад — горад мастакоў. Тут тварыў Казімір Малевіч, тут нарадзіўся, жыў, ствараў свае лепшыя працы і меў сваё лепшае каханне Марк Шагал. Тут быў Кандзінскі, былі Ермалаева, Лісіцкі, Бахцін і Сапуноў. У гэтым горадзе быў Напалеон, тут ляжаў, паранены, бацька вялікага расійскага паэта Юры Лермантаў. Я вітаю вас у гэтым горадзе і раскажу аб тым, што тут адбываецца.

— Алесь Николаевич, тут поступило сообщение, что здание заминировано, — перапыніў яго, падышоўшы да трыбуны, падпалкоўнік міліцыі, намеснік начальніка Кастрычніцкага РАУС Уладзімір Табуноў. Гэтая заява была сустрэта воплескамі і смехам усіх прысутных.

— Вашае рашэнне, таварыш падпалкоўнік?

— Надо эвакуировать людей. Сейчас сюда приедет группа минёров. Тех, кто здесь находится, просим покинуть помещение.

— Ад вас зыходзіць гэты загад — пакінуць будынак?

— Нет. Позвонили по 02 и сказали: заминировано здание.

— Адкуль рашэнне эвакуіраваць людзей?

— От меня.

— Значыць, вы прымаеце на сябе адказнасць?

— Да, да, да!

— Дазвольце вам не падпарадкоўвацца, пакуль не прыедуць спецыялісты — сапёры. Добра?

— Сапёры вызваны. Мы должны подготовить здание к осмотр...

— Мы не будзем вам падпарадкоўвацца, пакуль не прыедуць спецыялісты ў размініраванні.

— Вы берёте на себя такую ответственность — не подчиняться органам?

— Так. Гэта — прыватная галерэя, такая ж, як і кватэра, і без санкцыі пракурора вы не можаце сюды ні ўвайсці, ні каго-небудзь арыштаваць.

— Поступило сообщение, что тут находится мина. Мы заботимся о здоровье и самочувствии других

Уражанні




# Грамадзяне Польшчы і разам — беларусы

## (З нагоды фэсту ў Бельску)

***«Мы — жыхары мяжы дзвюх дзяржаў». Гэтыя словы сказаныя з іншай нагоды. Але разам з тым яны абсалютна дакладна акрэсліваюць становішча некалькіх соцень тысяч беларусаў, якія жывуць на ўсходзе Польшчы. Працэсы, якія вызначалі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў стан гэтай групы насельніцтва суседняй краіны, амаль дакладна паўтаралі тыя, што адбываліся па той бок мяжы — у БССР. І там і тут адзінымі дазволенымі ўладамі праявамі нацыянальнага жыцця былі кантраляваныя ўрадам беларускамоўныя выданні ды фальклорныя гурты ў вясковых клубах — прытулак для людзей пераважна старэйшага ўзросту.***

***Але за апошнія гады жыццё польскіх беларусаў змянілася. І ці не першай прыкметай гэтага стала тое, што маладое іх пакаленне ўсё менш імкнецца прыхаваць сваю беларускасць ці нават пазбавіцца яе. Яны мяняюць у вачах грамадства вобраз беларуса, які складаўся на працягу гадоў: цёмнага селяніна з забытай богам вёскі ці камуніста. А паўстанню гэтага новага аблічча спрыяе не толькі захаванне сваёй традыцыйнай, фальклорнай культуры, але і стварэнне новай.***

***Часткамі новай беларускай культуры Польшчы сталі, напрыклад, фестывалі сучаснай музыкі «Басовішча», якія, пачынаючы з 1989 года, адбываюцца ў Гарадку. А сёлета, ужо ў Бельску, прайшоў новы музычны фэст, удзельнікамі якога сталі беларускія барды абедзвюх краін.***

А чацвёртай гадзіне ўранні 29 кастрычніка наш аўтобус спыніўся ў Бельску. За спіной засталіся некалькі соцень кіламетраў дарогі, 12-гадзіннае чаканне ў чарзе на пераездзе і нечакана пільная ўвага мытнікаў да падарожнікаў, багаж якіх складалі ці не адны гітары. Напярэдадні, увечары гэтага ж дня, быў першы канцэрт фестывалю. Плакатамі з паведамленнямі аб ім ужо быў абклеены ўвесь горад.

— Вітаю вас на фестывалі «Бардаўская восень-94»! — абвясціў у мікрафон рэдактар беларускай праграмы радыё Беластока і вядучы фестывалю Юрка Ляшчынскі. — Мне прыемна вітаць вас яшчэ і з тае акалічнасці, што сем гадоў таму ў гэтым зале мы, тады яшчэ студэнты, пачыналі беларускае культурнае жыццё. Вынікам, між іншым, стаў і гэты фестываль. А цяпер папрашу старшыню Звязу беларускай моладзі і галоўнага арганізатара фестывалю Багдана Сіманенку афіцыйна адкрыць гэтае мерапрыемства. Багдан, калі ласка!

— Я вам зычу добрай ігры, а фестываль лічу адкрытым!

Так пачаўся першы вечар. На працягу амаль пяці гадзін выканаўцы змянялі адзін аднаго, змянялася публіка ў зале гарадскога Дома культуры, але ў ёй так і не заставалася ніводнага вольнага месца. Гледачы — людзі розных узростаў, якія гаварылі на розных мовах, — не заставаліся абыякавымі да ніводнага з выступленняў. Цікаўнасць выклікала ўсё: і праграма мясцовага гурта «Белы сон», і камерная лірыка Ланы Медзіч, і спевы добра тут вядомага Алеся Камоцкага, які пад канец выканаў «Тум-балалайка» спачатку па-беларуску, а потым на мове арыгінала — ідыш. Падзеяй фестывалю стала выступленне гарадзенца Віктара Шалкевіча, у Польшчы вядомага, бадай, лепш, чым у Беларусі.

Адкрыццём свята песні стаў спявак Хрыстафор Сяськевіч.

На сцэну выйшаў хлопец з гітарай, які, замест таго, каб спяваць, пачаў размову з залай, раз гаворачы ў мікрафон, а раз, забыўшыся пра яго — падыходзячы да краю сцэны, бліжэй да публікі.

— Што праспяваць — «Беларусачку»?

— Так! Не! — пачулася з залы.

— Праспяваць?

— А-а-а-а-а! — у адзін крык зліўся адказ ужо "заведзенай" ягонымі папярэднікамі публікі.

— Я праспяваю!

Стыль выканання песні, вядомасць якой надаў заакіянскі Данчык, быў настолькі адметным, што слухачы старэйшага пакалення пачалі паціху выходзіць з залы, а юныя беларусачкі заскакалі ў праходах. Падобна, спевака і ягоныя схільнасці тут ведалі.

— А цяпер я спяю сваю песню!

Песню, якая мела назву «Мая каханая» і выконвалася хаця і па-беларуску, але з усімі асаблівасцямі, уласцівымі говару Беласточчыны, прысутныя ўспрынялі зноў жа адпаведна ўзросту. Стоячы падчас выканання за сцэнай, я пачуў за спіной гукі яшчэ адной гітары і, азірнуўшыся, убачыў, як магілёвец Ігар Мухін з захапленнем паўтарае акорды, што гучаць са сцэны.

Затое трэцюю і апошнюю песню Хрыстафора зала сустрэла маўчаннем — надта ўжо не адпавядалі яе словы агульнаму святочнаму настрою:

*Добра мне жывецца.*
*Я не наракаю.*
*А мая айчына*
*Травой зарастае.*
*Маю добру працу.*
*Грошай мне хапае.*
*А мая айчына*
*Травой зарастае...*

Песня нагадвала аб нечым большым, чым зарослым травой хаты: аб тым, як зарастае травой не толькі зямля, але і памяць тутэйшых беларусаў аб тым, што яны, забыўшыся пра свае карані, знікаюць як этнас...

Хрыстафора я адшукаў за сцэнай, у кампаніі хлопцаў у майках з эмблемамі ЗБМ і бляшанкамі піва ў руках. Так і адбылося маё знаёмства з новым пакаленнем польскіх беларусаў.

— Я жыву ў Беластоку. Нарадзіўся ў Беластоку. Бацькі адтуль жа, з Беласточчыны, з вёскі, — пачуў я ад спевака. — Скончыў не беларускі ліцэй, а звычайную польскую школу. А тое, што я гавару па-беларуску, як прыйшоў да гэтага... Лепш расказаць пра песні. Тут, на Беласточчыне, дарогі паміж вёскамі брукаваныя і камяні на іх аж блішчаць: ходзяць людзі, гоняць жывёлу... Але ёсць такія вёскі, дзе не засталося нічога — толькі пару хат, і на вуліцы, паміж бруку расце трава. Старыя людзі паміраюць, а маладыя з'язджаюць у вялікія гарады, забываюць свой дом. Так і склалася гэтая песня. Яна — пра маю радзіму, пра нашых бацькоў і пра нас.

Гэта была сумная размова. Але ў час, калі яна адбывалася, два пакаленні беларусаў Беласточчыны — бацькі і дзеці — слухалі разам адны песні. Можа, дзякуючы якраз гэтаму іхняя радзіма і не зарасце травой? — падумалася мне.

Ранкам наступнага дня я здолеў, нарэшце, адшукаць вечна занятага Багдана Сіманенку — старшыню Звязу беларускай моладзі і арганізатара «Бардаўскай восені». Гутарка, што адбылася паміж намі, датычыла не толькі музыкі.

**— Звяз беларускай моладзі — арганізатар фестывалю. Чым яшчэ вядомая гэтая арганізацыя, якая гісторыя яе паўстання і мэты?**

— Пачаць, думаю, трэба з гісторыі, — сказаў Багдан. — Тут, на ўсходзе Польшчы, жывуць сотні тысяч беларусаў, якія мелі і маюць свае арганізацыі. Так, у 1956 годзе было заснавана БГКТ — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, мэтай якога было падтрыманне і захаванне беларускасці. Так, захаванне, але на вельмі невысокім узроўні, абмежаваным амаль выключна фальклорам. Былі гурткі народнай песні, выдаваліся па-беларуску нейкія кніжкі, якія ніхто не чытаў... Тагачасныя польскія ўлады гэткае становішча задавальняла. А па-за БГКТ зрабіць хоць што-небудзь было немагчыма. Не было нават размовы аб нейкіх дзеяннях ці імпрэзах, якія выходзілі б за межы фальклорнай беларушчыны і ў самой структуры БГКТ.

На мяжы 70—80-х гадоў пачаліся змены. Пачалі аб'ядноўвацца студэнты мясцовага паходжання, што вучыліся ў Варшаве, у Беластоку. Напачатку гэта былі проста сустрэчы знаёмых, прыяцеляў, прыватных асоб. Яны проста аднаўлялі старыя знаёмствы, збіраючыся ў сваім асяродку, часам запрашалі на свае сустрэчы цікавых ім гісторыкаў ці літаратараў. Паступова гэты асяродак пачаў набываць характар арганізацыі, атрымаўшы недзе каля 1980 года назву БАС — Беларускае аб'яднанне студэнтаў. У наступным годзе ўладам была пададзеная заява аб рэгістрацыі БАС, якое на той час нават мела сваё невялічкае выданне, тыражаванае на ксераксе. Але тут у грамадскія справы ўмяшалася палітыка. Чарговы нумар студэнцкага лістка меўся выйсці 14 снежня 1981 года, а 13 снежня ў Польшчы Ярузельскім быў абвешчаны ваенны стан. Тады, дарэчы, гэты лісток нават паказалі па тэлевізіі як выданне нейкай падпольнай беларускай арганізацыі. Хаця БАС не мела ніякага дачынення да палітыкі, яго дзейнасць была спынена. Але беларускі студэнцкі рух не знік. Ладзіліся спатканні, імпрэзы, выдаваўся нават часопіс «Сустрэчы». Студэнты арганізавалі сабе «Атрасіны», балі, рэйды...

У 1987 годзе тут, у Бельску, у гэтай жа зале гарадскога Дома культуры, адбыўся з'езд беларускай моладзі з усіх студэнцкіх асяродкаў. І на ім Пятро Багроўскі — адзін з заснавальнікаў першага БАС — нечакана для многіх прапанаваў аднавіць Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Патрэбу стварэння асобнай арганізацыі моладзі адчувалі тады ўсе, бо беларускі маладзёжны рух існаваў як частка структур іншых арганізацый. Так сем гадоў таму было створана новае БАС.

Але студэнцкая арганізацыя мае свае асаблівасці. Працягласць знаходжання ў ёй даволі невялікая, і да таго ж па-за БАС апынуліся маладыя работнікі, школьнікі, моладзь з вёсак. Ужо тады шмат у каго з'яўляліся думкі аб стварэнні арганізацыі з іншым колам удзельнікаў. Так і адбылося: два гады таму быў зарэгістраваны ЗБМ — Звяз беларускай моладзі.

**— І чым жа ён розніцца ад іншых беларускіх арганізацый?**

— Ад тых, што яднаюць моладзь? Да БАС можна належаць. Гэта значыць быць у спісе, часам наведваць нейкія імпрэзы і нічога самому не рабіць. У нас гэта немагчыма. Адзін з прынцыпаў ЗБМ — высокая актыўнасць нашых сяброў. А другое істотнае адрозненне — дастаткова выразны нацыянальны характар арганізацыі. Мы — грамадзяне Польшчы і разам з тым мы — беларусы, якія не саромеюцца і не хаваюць сваёй беларускасці, якія імкнуцца захаваць яе. У вас у Беларусі падобнымі словамі мала каго здзівіш, але ў нашай краіне, дзе мы складаем меншасць, яны маюць зусім іншы сэнс.

Яшчэ адно адрозненне: мы не палітычная арганізацыя, як Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Мы займаемся тым, што цікавіць людзей нашага ўзросту, у тым ліку і музыкай. З гэтага, дарэчы, і вынікае нашая зацікаўленасць правядзеннем «Бардаўскай восені».

**— Я хацеў бы спытаць аб тым, што датычыць і ЗБМ, і наладжанага ім фестывалю. Тут, у Бельску, па-беларуску на вуліцах гавораць паміж сабой хіба што людзі сталага ўзросту. Як можа існаваць і нешта ладзіць ваша арганізацыя ва ўмовах, калі беларушчына, магчыма, не патрэбна маладому пакаленню?**

— Так, сёння польская мова стала роднай для жыхароў Беласточчыны — і палякаў, і тых, хто называе сябе тутэйшымі ці праваслаўнымі. Але чалавек, які праз разуменне сваёй непадобнасці ўсвядоміў сваю беларускасць, абавязкова звернецца і да мовы свайго народа, якая тут не забытая. Я ведаю такіх людзей. Яны ёсць і ў ЗБМ. Таму адна з галоўных нашых мэтаў — захаванне нацыянальнай свядомасці, перадусім праз стварэнне ўласнага асяродку. А калі гаварыць пра фестываль, дык гэта — не толькі свята для тых, хто любіць добрую музыку, але і акцыя азнаямлення людзей з культурай, якая выходзіць далёка за межы здаўна культываванай тут падкрэслена фальклорнай, вясковай беларушчыны.

Дарэчы, месца правядзення фэсту — Бельск — таксама выбрана не выпадкова. У мінулым годзе яго збіраліся правесці ў Варшаве, але з розных прычын гэта не адбылося. І не апошняя з іх — адсутнасць слухацкай аўдыторыі. А тут, у Бельску, яна ёсць. Сярод традыцый гэтага горада ёсць і традыцыя беларускай культуры. Ён — сталіца беларушчыны ў Польшчы.

**— Бельск, а не Беласток?**

— Беласток — адміністрацыйны цэнтр. А ў Бельску не проста жыве шмат беларусаў. Тут захоўваецца памяць аб суіснаванні культур двух нашых народаў. Да таго ж у Беластоку ёсць свята беларускай песні, у Гайнаўцы — дні праваслаўнай царкоўнай музыкі. А Бельск дагэтуль заставаўся ўбаку — і дарма.

**— Фестываль — першая буйная акцыя ЗБМ?**

— Такога маштабу — так. Дагэтуль мы супольна з беларускімі школамі ды БАСам ладзілі імпрэзы забаўляльнага характару. Але мы імкнуліся да большага, тым больш што на Беласточчыне ўжо ёсць традыцыя фэстаў сучаснай беларускай музыкі.

**— Гэта значыць, што «Бардаўская восень» планавалася як дапаўненне да ўжо вядомага «Басовішча»?**

— У пэўнай ступені так. За пяць гадоў свайго існавання з проста музычнага фестывалю «Басовішча» ператварылася ў фестываль рок-музыкі, не пакінуўшы месца для бардаў. Таму бардаўскай песняй вырашылі заняцца мы. І атрымалася, здаецца, няблага.

**— Значыць, фестываль будзе мець свой працяг?**

— Спадзяюся. Бо ж беларускай песняй тут цікавяцца, а гэта — галоўнае.

Увечары адбыўся заключны фестывальны канцэрт. Гэтым разам яго ўдзельнікамі сталі тыя з выканаўцаў, якія атрымалі ўзнагароды арганізатараў ці фундатараў фестывалю — Лана Медзіч і Уладзімір Закрэўскі, адзначаныя Радай бацькоў бельскага беларускага ліцэя імя Тарашкевіча, гурт «Белы сон», што заслужыў прыз радыё Беластока і другі, прыватны — паэткі Надзеі Артымовіч, Хрыстафор Сяськевіч, які атрымаў спецыяльны прыз мастака Лёніка Тарасевіча за тое, што «не пабаяўся рэалістычна глядзець на жыццё». Гран-пры фестывалю і ўзнагарода бурмістра Бельска Андрэя Сцепанюка дасталіся песняру Гарадзеншчыны і Беласточчыны Віктару Шалкевічу, якога публіка на працягу гадзіны не адпускала са сцэны.

Але ўсё мае свой канец. Скончыўся другі, апошні вечар «Бардаўскай восені», скончыўся і сам фестываль, пакінуўшы па сабе заклееныя афішамі тумбы ды ўспаміны бяльчан аб двух вечарах свята песні. А што засталося?

Засталіся запісаныя на заказ ЗБМ аўдыкасета і відэафільм з выступленнямі ўдзельнікаў фэсту. Застаўся сам Звяз з яго імкненнем захаваць беларушчыну як частку шматэтнічнай культуры сваёй радзімы. Засталіся «тутэйшыя», жыхары мяжы дзвюх дзяржаў, для якіх і гучалі песні на працягу двух вечароў. Засталася традыцыя суіснавання тут, на польска-беларускім сумежжы, двух народаў, дзвюх культур. І гэта — галоўнае.

У.П.

*Люляў двух Міцкевічаў Нёман*

Алена НІЯКОЎСКАЯ

# Пад тымі ж сузор'ямі

**(Прастора эпічнай дзеі паводле паэмаў «Пан Тадэвуш» і «Новая зямля»)**

Ёсць радкі, якія ведае кожны беларус. Яны гучаць пацерам, псалмом:

*Мой родны кут, як ты мне мілы,*
*Забыць цябе не маю сілы...*

І — менш вядомыя:

*Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie...*

Так, гэта радкі з твораў Кастуся Міцкевіча (Якуба Коласа) і Адама Міцкевіча, іх сыноўнія словы да Айчыны, зварот да яе гаючага духу, успаміны душы пра мінулую дасканаласць, шчыры сум... Гэтыя радкі запавядаюць падабенства двух твораў нашай літаратуры — «Пана Тадэвуша» і «Новай зямлі», — што і прымаецца душой. Але можна ўсё ж паспрабаваць, рызыкуючы, наблізіць да рацыянальнага разумення таемную сувязь гэтых твораў.

Першае, што яднае абедзве паэмы, — жанр, велічны эпас: «пошук згубленага часу», ажыўленне таго, што «мінула з ветрам», успамін пра мілы ўтульны свет, які гіне на ростанях гісторыі. І не трэба спрачацца пра чый свет, пра які народ гутарка, бо эпас, пры ўсім яго нацыянальным характары, — з'ява наднацыянальная. Вечныя і агульначалавечыя праблемы: Дабро, Зло, Лёс, Чалавек, «Новая зямля» вызваленага духу — усё гэта ўласціва кожнаму эпічнаму твору.

Творцы — Адам Міцкевіч і Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас) — вядуць апавяданне з дыстанцыі часу і ўжо ведаюць, што было потым. Героі ж не ведаюць гэтага. І нельга іх папярэдзіць, дапамагчы, бо ўсё ўжо адбылося! Таму сумна гучаць нават вясёлыя радкі. Нічога не вернеш. Але «дым Айчыны» не павінен развеяцца, знікнуць назаўжды. І, перш чым аддаць «родны кут» абыякава-велічнаму Сусвету, Міцкевічы запрашаюць перажыць жыццё іх герояў, адчуць іх свет.

Абедзве паэмы супадаюць не сюжэтам, хоць ёсць шмат агульначалавечага ў аповядзе пра Гарэшкаў і Сапліцаў — шляхцічаў з Наваградчыны — і пра сям'ю лесніка Міхала ды ягоных сваякоў і знаёмых. Форма таксама розная: у Міцкевіча — трынаццаціскладовы польскі «александрын» з цэнзураю, у Коласа — дзевяціскладовы ямб. Але збліжае паэмы мудрая падрабязнасць, няспешнасць апавядання, аднолькавы духоўны настрой, стыль народнай гутаркі. Паэмы надзвычай тэатральныя, яны працягваюць традыцыі антычных трагедый, сярэднявяковых містэрый: дзея адбываецца пад вечным Небам, у бясконцай прасторы, перад абліччам усяго чалавецтва і кожнага з нас. Падрабязны, «грунтоўны» рэалізм паволі і цярпліва набагачвае, стварае непаўторную паэтычнасць летапіснай аповесці, простую і шчырую, пазбаўленую наўмысных прыўкрас. Ніякай рыторыкі, ніякіх складаных метафар. Толькі зрэдку апавядальнікі-эпікі не могуць стрымаць пачуцця. Гэтыя месцы ў паэмах супадаюць поўнасцю, нават слоўна, утвараючы падвойнае гучанне — рэха, якое лунае ў эпічнай прасторы, — і там ужо не думаеш, каму яно, цудоўнае, належыць: *«Літво! Ойчызно моя!..»* — *«Мой родны кут»*.

Ёсць у паэмах і разгорнутыя агульныя вобразы. Яны, нібы сюжэтныя лініі, праходзяць, пранізваюць абодва творы.

Вось фінал «Пана Тадэвуша» — заручыны Зосі і Тадэвуша, лагічны, натуральны вынік іх сустрэчы і знаёмства. «Панна Літва» бярэ шлюб з чыстым шчырым юнаком, мужным рыцарам. Мірацца, лучацца сем'і і роды. Перад імі — будучыня, шлях у шырокі свет. Гэтая надзея не знікае нават у смутным эпілогу, дзе Міцкевіч-эмігрант, выгнаннік, піша:

*Rzuciwszy miecze, siądą rozbrojeni*
*Rycerze nasi! Zechcą słuchać pieśni!*
*..............................................*
*Będą czas mieli słuchać o przyszłości!*

З гэтай будучыняй-*przyszłością* суіснуе яшчэ адзін вобраз. У кнізе чацвёртай «Пана Тадэвуша» Адам Міцкевіч прыгадвае легенду пра жалезнага ваўка, што прысніўся Гедыміну. Гэта было, паводле легенды, пачаткам Вільні і славы маладой дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Што ж атрымалі ў спадчыну героі Коласа? Ці знайшлі яны сваю *przyszłość*-будучыню, новую зямлю? Часам ім здаецца, што «мара йдзе ў ажыццяўленне», што наступае час

*...з гэтай спадчынай сквітацца,*
*Што засталася ад бацькоў —*
*Зямелькі некалькі шматкоў...*

Але коласавы нашчадкі «Панны Літвы» — бедныя ды не галодныя, пахілы, але не скораны люд, толькі закручаны ў вірах Лёсу... Няма зямлі, як не відаць неба за бруднымі камяніцамі Вільні, дзе блукае Антось.

І зусім не «жалезны» воўк імкне насустрач лёсу і гіне ў палонцы. Гэта задае алегарычны тон паэме «Новая зямля», трывожна паскарае тэмп апавядання, запавядае трагічны фінал. У смяротным трызненні Міхал бачыць сябе ваўком; яго, знясіленага, прымае вада, змывае, як бездапаможную «рудую мыш»... І апошні стогн, енк, малітва-заклік:

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*
*На новы лад, каб жыць нанова...*
*Не кідай іх...*

**Не кідай нас, Вечнасць! Дай нам новую зямлю, зямлю духа! Дай нам выгляд! Злучы нашы сцежкі з дарогамі продкаў і шляхам чалавецтва! Каб жыць! Жыць!**

...Светапогляд герояў — яшчэ адна рыса, якая збліжае паэмы. Свет герояў — падрабязна-прадметны, цэнтраімклівы, менавіта праз «аўру» дасканалага прадмета, зразумелых адносін эпічны герой імкнецца (несвядома!) выйсці ў Сусвет, не адмаўляючыся ад сябе, але прыхіляючы неба.

*...Całe grono z posępną i cichą postawą*
*Pogląda w niebo, które zdawało się zniżać,*
*Scieśniać i coraz bardziej ku ziemi przybliżać...*

Гэта заходні, сансарычны тып культуры, у адрозненне ад нірванічнага тыпу адмаўлення ад сябе дзеля Сусвету ў некаторых усходніх культурах. Цікава, што ў Міцкевіча ёсць мастацка-філасофскае азначэнне гэтай з'явы ўжо ў папярэднім яго творы — у «Дзядах»:

*Bo słuchajmy i zważmy u siebie,*
*Że według Bożego rozkazu:*
*Kto nie dotknął ziemi ni razu,*
*Ten nigdy nie może być w niebie.*

Прадметны свет «Новай зямлі» — таксама бязмежна невылічальны. Гэта неабсяжнае быццё рэчаў побыту, адносін, традыцый, сітуацый, з'яваў прыроды. Нездарма многія строфы і радкі паэмы сталі здабыткамі фальклору...

У Адама Міцкевіча толькі, бадай, сумная дыстанцыя апавядання дае нам зразумець, што «айчына здароўя» гіне, што «апошні заязд» — канец старога свету. (А выправа моладзі ў напалеонава войска — ці не пошукі новай зямлі, іншай «сядзібы духа»?) Нездарма Міцкевічавы сучаснікі называлі яго магільшчыкам старой Рэчы Паспалітай.

Якуб Колас таксама паказвае парушэнне роднага, традыцыйнай цэнтраімкліва-прадметнай, адчувальнай рэчыўнай культуры. Але гэта ўжо даслоўнае разбурэнне. Свет-«родны кут» яшчэ па-ранейшаму прывабны, але зусім не ўтульны. І цыклы «развіццё-разбурэнне» больш кароткія. Тэмп такі, што чалавек, як звер у стрыжані... «Родны кут» гіне літаральна, старая зямля — хата — проста згарае. Пошукі новай зямлі набываюць рысы трагічнай няўцешнасці. Сям'я Міхала жыве ў зямлянцы, людзі заглыбляюцца ў зямлю, туляцца да яе ўсім целам...

І ўсё гэта адбываецца амаль у тых самых выколіцах, пад тымі ж сузор'ямі, апісанымі ў кнізе восьмай «Пана Тадэвуша» і ў дваццаць першай «песні» Коласавай «Новай зямлі». Сугучча — захапляючае: героі перад абліччам зорнага неба.

*Już naprzeciw księżyca gwiazda jedna, druga*
*Błysnęła; już ich tysiąc, już milijon mruga.*

І Коласавы героі разважаюць:

*А што, скажыце, зорка значыць,*
*Якой ніхто мо і не бачыць:*
*Яна маланкай мігатнецца*
*І згасне. Дзе ж яна дзяецца?*
*.........................................*
*То — тайнасць Божжа, яго воля,*
*Чаго мы, людзі, мо ніколі*
*І не дазнаемся, як трэба...*

І аб злавесных каметах — у абедзвюх паэмах, і аб тым, што шлях людскі трэба шукаць не толькі на зямлі, але і на небе... Адна і тая ж прырода блаславіяе герояў Міцкевіча і Коласа, гоіць іх раны. Прырода — агульны персанаж абедзвюх паэм. Яна — аснова супольнай эпічнай прасторы.

Свет, пра які пішуць Адам Міцкевіч і Кастусь Міцкевіч, нарадзіў гэтых творцаў і аддаў Сусвету. З гэтай вышыні яны сумна глядзяць на «родны кут», але нічога не могуць змяніць у яго лёсе. Ці гэта не аб драматычным шляху Літвы-Беларусі, якая шукае і не можа знайсці сваю зямлю?!

«Пан Тадэвуш» і «Новая зямля» — два паслядоўныя акты нашай эпічнай дзеі, апошнія, бадай, славянскія эпасы (у больш традыцыйным значэнні гэтага слова). Не выключана, што «Новая зямля» нарадзілася з пачуцця абавязку аўтара перад духам вялікага Адама Міцкевіча. Ён свядома прытушыў ззянне свайго сапраўднага прозвішча алегарычным псеўданімам. Але Якубам Коласам ён быў толькі для нас. Для сябе ён быў Міцкевічам. Але чым гэта было для Кастуся Міцкевіча? Лёсам, абавязкам? Можа, тым, што мы называем унутранай драмай? Мы гэтага ніколі не даведаемся.

*Беларуская мова — мова навукі*

# «Пытанні нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі»

***Пад такой назвай 24—25 лістапада адбылася ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф.Скарыны агульнабеларуская канферэнцыя, у якой узялі ўдзел навукоўцы з Гомеля, Менска, Віцебска.***

Падчас працы былі прачытаны і абмеркаваны даклады і паведамленні У.В.Анічэнкі «Пра нашу тэрміналогію», М.Анцыповіча «Філасофскі слоўнік па-беларуску — патрэба часу», Т.Сухой, П.Міхайлава «Некаторыя асаблівасці словаўтварэння ў матэматычнай тэрміналогіі», Л.Шломы, В.Юферава «Арыентацыя на сродкі беларускай мовы пры фармаванні матэматычнай тэрміналогіі», В.Шчэрбіна «Роля тэрміналагічных слоўнікаў у працэсе нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі», аўтара гэтых радкоў «Шляхі фармавання і пытанні нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі» ды іншых.

Адбылася плённая дыскусія аб шляхах фармавання нацыянальнай тэрмінасістэмы і яе функцыянавання як жывой моўнай адзінкі ды вызвалення яе ад неўласцівых нашай мове напластаванняў савецкага часу. Большасць выступоўцаў лічыць заганнай практыку выкарыстання слоў з суфіксамі -ем-, -ір-, -уч-(-юч-), -ач-(-яч-), сляпога, бяздумнага калькавання з расійскай мовы. Вельмі слушнай была думка, што пры складанні слоўнікаў неабходна ісці ад практыкі, выкарыстоўваючы пакуль што невялікі каштоўны вопыт беларускамоўнага выкладання як гуманітарных, так і прыродазнаўчых ды тэхнічных дысцыплін у разнастайных ВНУ краіны, спалучаючы досвед спецыялістаў з дасягненнямі філалогіі. Выступоўцы даводзілі, што важкім з'яўляецца вывучэнне станоўчага гістарычнага досведу стварэння сваямоўнай тэрміналогіі ў 20—30-я гады. Акурат гэты зварот дазваляе развязаць шэраг прынцыповых праблем сучаснай тэрмінатворчасці: выкарыстанне каранёў, сродкаў словаўтварэння, сінтаксічных мадэляў нашай мовы. Гаварылася і пра неабходнасць асэнсавання здабыткаў тэрмінатворчасці іншых славянскіх народаў, мовы якіх не зазналі такой магутнай расійскамоўнай экспансіі, як наша. Удзельнікі канферэнцыі падтрымалі тэзу пра папаўненне айчыннай тэрмінасістэмы ўнутранымі пазычаннямі і неалагізмамі, створанымі на ўзор прадукцыйных беларускіх словаўтваральных мадэляў. Разам з гэтым падкрэслівалася, што пурызм павінен быць рацыянальным і ўлічваць не толькі нацыянальныя адметнасці, але і адпавядаць патрабаванням міжнароднай уніфікацыйнай сістэмы.

Праца канферэнцыі яшчэ раз засведчыла, што праблемы нацыянальнай тэрміналогіі, яе фармаванне і функцыянаванне нецікавыя для шматлікіх дактароў і кандыдатаў філалагічных навук, як не з'яўляюцца яны прыярытэтнымі, галоўнымі для Інстытута мовазнаўства АН Беларусі: супрацоўнікі гэтай акадэмічнай установы не замовілі ніводнага даклада ці паведамлення.

Канферэнцыя закончыла сваю працу прыёмам звароту да калектыву выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя».

**Зміцер ПАЎЛАВЕЦ,**
**загадчык кафедры беларускай культуры ГДзУ імя Ф.Скарыны.**

## ЗВАРОТ

**удзельнікаў канферэнцыі «Пытанні нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі» да калектыву выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»**

*Удзельнікі канферэнцыі вітаюць задуму выдання універсальнай 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» як з'явы гістарычнай важнасці ў культурным і навуковым жыцці нашай краіны. Па нашым перакананні, яе грунтоўная распрацоўка магчыма толькі пры ўмове кансалідацыі намаганняў беларускіх навукоўцаў.*

*Разумеючы спецыфіку перыяду падрыхтоўкі энцыклапедыі, калі беларуская навуковая тэрміналогія не прайшла этапы свайго стварэння, апрабацыі і ўнармавання, удзельнікі выказваюць заклапочанасць тым, паводле якіх прынцыпаў будуць адбірацца навуковыя тэрміны. У шырокага кола навукоўцаў, што непасрэдна займаюцца распрацоўкай і праверкай на практыцы тэрміналогіі з адпаведных галінаў навукі, сфармавалася сталае перакананне, што скарыстанне ў поўным аб'ёме тэрмінаў, пададзеных у слоўнікавых выданнях апошніх дзесяцігоддзяў, — недапушчальнае. Зрусіфікаваны характар сучаснай беларускай літаратурнай мовы асабліва яскрава выяўляецца ў сферы навуковай лексікі, навязанай нашай мове штучна, без натуральнай апрабацыі.*

*Адзіна апраўданы ў такой сітуацыі падыход, калі вакол тэрміналагічнай праблемы пры выданні «Беларускай энцыклапедыі» аб'яднаць тых навукоўцаў, якія займаюцца стварэннем беларускай навуковай тэрміналогіі і скарыстоўваюць яе ў навучальнай і навуковай дзейнасці. Падмена жывога і шырокага абмеркавання сістэмы тэрмінаў іх суб'ектыўным адборам рэдакцыямі ці асобамі, далёкімі ад практычнай дзейнасці па яе распрацоўцы, можа прывесці да нежыццяздольнасці тэрміналогіі.*

*Мы спадзяёмся, што супольнасць беларускіх навукоўцаў і практыкаў зможа паспяхова развязаць гэтую задачу, і планавае выданне стане агульнанацыянальным набыткам.*

**Гомель, ГДзУ ім.Ф.Скарыны.**
**24—25 лістапада 1994 г.**




**Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Уражлівая і ціхая муза выдатнага балгарскага паэта пачатку нашага стагоддзя Пеё Яварава (1878—1914). Яго паэзія — гэта своеасаблівы эпілог шматвяковай пакутлівай дарогі балгар...

**Пеё ЯВАРАЎ**

## Ліст апалы

Ліст апалы, толькі Богу
шлях яго вядомы...
Адлятае
сіраціна на чужыну —
сам ад дому.

Ліст апалы, сном-знямогай
ён засне ў даліне...
Хто чакае,
з ім у стоме хто застогне
па радзіме?

## Сон

Я ў сне цябе сасніў, анёл мой мілы.
У сне сасніў — замроеная мной,
ты галаву мне на плячо схіліла.
Азораны быў ярка морак ночы:
у позірку маім, зацягнутым імглой,
у будучынь твае глядзелі вочы...
Так некалі было — дні зязлі, быццам сонца!..
Пакуль ты не знайшла сабе спакой,
пакуль не наталілася да донца.
Прачнуўся і зайшоўся горкім плачам:
да золку слёзы ліў у немаце начной
пра смерць тваю і лёс, мой лёс лядачы...

## Будзіць яе не трэба

Душа глыбока спіць у чэраве начным:
будзіць яе не трэба.
Адна пад небам,
бяздомная, чужая ўсім,
быць можа, памірае ў чэраве начным:
будзіць яе не трэба!

Ноч пад накідкай зор не змружвае вачэй,
меланхалічна мроіць.
Дзіця слабое
прыціснуўшы са смуткам да грудзей,
ноч пад накідкай зор слязінкі лье з вачэй,
меланхалічна мроіць.

Спіць сірата-душа, праменячы святло
усмешкаю пакоры.
Маўчыць прастора,
схіляе долу сумнае чало:
канае сірата, праменячы святло
усмешкаю пакоры.

**Пераклад з балгарскай Васіля САХАРЧУКА.**

# У клуба «Спадчына» — юбілей

***Менскі гарадскі клуб «Спадчына» (старшыня Анатоль Белы) — ці не адзіная сёння грамадская культурна-асветніцкая арганізацыя беларускай сталіцы, якая пачала адлічваць другое дзесяцігоддзе ўласнай гісторыі.***

Клуб зараз аб'ядноўвае навукоўцаў, літаратараў, журналістаў, педагогаў, дзеячаў культуры і мастацтва, супрацоўнікаў асветніцкіх устаноў, ветэранаў вайны і працы, моладзь. Сярод сяброў клуба — аўтарытэтныя вучоныя (Р.Гарэцкі, Л.Лыч, Г.Штыхаў, А.Грыцкевіч, М.Ермаловіч), вядомыя пісьменнікі (В.Быкаў, Р.Барадулін), а таксама мастакі, паэты, празаікі, публіцысты, якія па розных прычынах пакуль не ўпісаліся ў адпаведныя афіцыйныя творчыя структуры. Нямала ў «Спадчыне» нацыянальна свядомых вайскоўцаў, ёсць прадстаўнікі рабочых прафесій, студэнты і старшакласнікі. Падкрэслім, што клуб — нефармальная, як казалі раней, патрыятычная арганізацыя, якая галоўнымі мэтамі сваёй дзейнасці лічыць паслядоўнае ўмацаванне суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны, шырокае Адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, перш за ўсё стрыжня этнічнай самабытнасці беларусаў — матчынай мовы. Клуб «Спадчына» — калектыўная сябрына ТБМ імя Ф.Скарыны, ён актыўна падтрымлівае палітычныя рухі, згуртаванні і партыі патрыятычнага накірунку.

«Спадчына» рэгулярна наладжвае вечарыны ў гонар славутых падзей з гістарычнага мінулага Беларусі і выдатных людзей нашай роднай зямлі. Акрамя таго, у бягучым годзе клуб арганізаваў і паспяхова, пры поўнай зале, правёў вялікае гарадское тэатралізаванае свята, прысвечанае матчынай мове (красавік, Палац культуры ВА «МАЗ»), летам перавёз з Менска помнік Максіму Багдановічу і ўстанавіў яго ў Яраслаўлі — горадзе, дзе прайшла большая частка жыцця гэтага нацыянальнага Песняра. Зараз у будынку філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (вул.К.Маркса) экспануецца тэматычная выстава з асабістага збору А.Белага «Любіць Бацькаўшчыну — шанаваць родную мову». А зусім нядаўна ўбачыў свет першы нумар грамадска-асветніцкага альманаха клуба — «Спадчына «Спадчыны», урачыстая прэзентацыя якога адбылася 30 лістапада ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

У музейным фае дэманстравалася фотавыстава, якая расказвала аб практычнай дзейнасці «Спадчыны» з часоў заснавання да дня сённяшняга. У зале — сябры і прыхільнікі клуба, карэспандэнты рэспубліканскіх газет, часопісаў, журналісты беларускага радыё і тэлебачання. Прэзентацыя традыцыйна, як і ўсе папярэднія пасяджэнні клуба, адкрылася чароўнай песняй Ігара Лучанка на словы Янкі Купалы «Спадчына». Кароткім уступным словам новае выданне прадставіў А.Белы. Старшыня Саюза кампазітараў Беларусі Ігар Лучанок, азіраючыся на дзесяцігадовы шлях клуба, выказаў упэўненасць, што і наперадзе ў «Спадчыны» будзе яшчэ шмат добрых, надзвычай карысных спраў у імя нашага Адраджэння. Маэстра сеў за піяніна, пачуліся акорды яго песні «Жураўлі на Палессе ляцяць», якую па-майстэрску, без мікрафона выканаў народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка.

Затым слова бралі прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, галоўны рэдактар газеты «Набат»




пісьменнік Васіль Якавенка, намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, мастак Міхась Карпук, старшыня Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Заводскага раёна Менска Міхась Лавіцкі, старшыня Згуртавання беларусаў свету Ганна Сурмач, наш суайчыннік з Бельгіі Янка Жучка, намеснік старшыні БЗВ Алесь Станкевіч, галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса» Васіль Кушнер, дачка вядомага беларускага нацыянальнага дзеяча Вінцэнта Жук-Грышкевіча Рагнеда Аляхновіч, рэдактар выдавецтва «Народная асвета» Яўген Гучок, гісторык і пісьменнік Мікола Ермаловіч, мастак Алесь Цыркуноў. Прамоўцы аднадушна адзначылі відавочныя дасягненні клуба «Спадчына» ў духоўным Адраджэнні Беларусі. У зале гаварылі таксама пра тое, чаго не хапае «Спадчыне»: пакуль мала моладзі, сябрам клуба трэба смялей, больш актыўна ісці да простых людзей, яшчэ не далучаных да высакароднай нацыянальнай ідэі. Праўда, апошняе, як падкрэслівалася прамоўцамі, пачало пераадольвацца, цяпер акцыі «Спадчыны» не абмяжоўваюцца чатырма сценамі, яны ўжо збіраюць значныя аўдыторыі, што садзейнічае росту аўтарытэту і папулярнасці клуба.

Завяршыла прэзентацыю агністае выступленне ансамбля народнай музыкі, песні і танца Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі «Вяселле» (мастацкі кіраўнік — лаўрэат міжнародных конкурсаў Віктар Людчык, салісты — заслужаныя артысты рэспублікі Святлана і Уладзімір Салодкія, Міхась Пацук).

Гартаючы старонкі альманаха, адразу адзначым артыкул Генадзя Панеўскага «Беларусь — шаноўная, святая, вольная, чыстая...» — спробы самастойнай распрацоўкі навуковай перыядызацыі айчыннай гісторыі з сівой старажытнасці да апавяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Цікавае па-свойму эсэ Анатоля Белага «Прымалі закон аб мовах...», дзе аўтар згадвае маляўнічыя дэталі і акалічнасці прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб мовах.

**Мар'ян ВІЖ.**

**МЕРКАВАННІ**

# КНІГА Ў ПРОФІЛЬ І АНФАС

У наш час паглыбленага самавызначэння, ломкі грамадскай сістэмы і пераацэнкі духоўных каштоўнасцей асабліва значэнне надаецца кнізе — аднаму з галоўных кампанентаў цывілізаванага грамадства, крыніцы прагрэсу ўвогуле. Мне часта даводзіцца кантактаваць з многімі філолагамі і гісторыкамі, філосафамі і пісьменнікамі. Амаль усе яны заклапочаны не толькі зместам, унутранай напоўненасцю той ці іншай сваёй кнігі, але звяртаюць увагу таксама на яе знешняе аблічча, на вонкавае афармленне. Не бяруся казаць пра фізікаў і матэматыкаў, вучоных тэхнічных спецыяльнасцей, але для пісьменнікаў і прадстаўнікоў грамадазнаўчых навук, сапраўды, істотным з'яўляецца як першае, так і другое. Наўрад ці хто стане аспрэчваць, што знешні выгляд кнігі павінен належным чынам пасаваць да яе зместу. У сувязі з гэтым прыгадваюцца красамоўныя словы Івана Мележа: «Пісьменніку не ўсё роўна тое, у якім выглядзе з'явіцца яго кніга перад чытачом. Кожны з нас рады, калі яна надрукавана на добрай паперы, калі ў яе ўдалая вокладка.., пачуццё асаблівай радасці мы адчуваем, калі кніга да таго ж упрыгожана таленавітымі, з любоўю зробленымі ілюстрацыямі. Не заўсёды ў пісьменніка, на жаль, бываюць падставы для такой радасці».

Сапраўды, не заўсёды. Асабліва актуальнай гэта думка прызнанага майстра мастацкага слова стала сёння, калі паўсюдна, у тым ліку і ў кнігавыдавецтве, абвастрыліся незлічоныя праблемы. Зазірніце ў кнігарні — пераканаецеся. Апошнім часам з'явілася цэлая хваля недабраякаснай прадукцыі. Глядзіш, добрая ж кніжка, прысвечаная сур'ёзнай праблеме, а знешні выгляд... Кепска сшытая, расхрыстаная, перакошаная вокладка, аляпавата адбіты на ёй малюнак...

Асабліва не шанцуе, здаецца, аўтарам выдавецтва «Навука і тэхніка». Што ні кніга — недапрацоўкі, нядбальства і абыякавасць тых, хто яе выпускае ў свет. Вазьміце нядаўна выдадзенае даследаванне А.Трусава, В.Собаля і Н.Здановіч «Стары замак у Гродне». Як мне стала вядома, свае аўтарскія асобнікі вучоныя атрымалі зусім іншымі — добра дагледжанымі, спецыяльна зробленымі для іх. А астатні наклад — кніжкі пагнутыя, без надпісу і прозвішча аўтара карашок, мастацкае афармленне вокладкі далёка не лепшае. Знешні выгляд кнігі такі, нібы яна была спецыяльна намочана, а пасля яе доўга сушылі.

Амаль такі самы выгляд і ў кнігі М.Мікуліча «Максім Танк і сучасная беларуская лірыка». І вокладка, і кніга, як быццам, нічога (удалая праца мастака, добрая папера), але як яны прымацаваны адно да другога, які пераплёт... Не зайздрошчу аўтару, які, мяркуючы па ёмістай тэме і шырыні ахопу матэрыялу, не адзін, відаць, год працаваў над рукапісам, спадзеючыся на яго належнае вытворчае аздабленне. На жаль, не атрымалася.

Зусім нядаўна з поспехам разышоўся сярод зацікаўленых чытачоў надрукаваны ў «Навуцы і тэхніцы» першы выпуск факсімільнага выдання газеты «Наша ніва». Між тым, мала хто ведае, што цэлая партыя яго асобнікаў у «Кнігарню пісьменніка» трапіла з бракам, таму была вернута друкарні.

Дык ці не надышоў час, спадары кнігавыдаўцы, належным чынам паклапаціцца пра чытача і яго інтарэсы, а заадно і пра свой прафесійны гонар.

**М.М.**

